# КАЛІНКА

НЕЗАЛЕЖНАЕ ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАННЕ Г. КАЛІНКАВІЧЫ. ЧЭРВЕНЬ 2013 Г.

**ЦЫЦЭРОН: “СВАБОДА - ГЭТА ЎДЗЕЛ ВА ЎЛАДЗЕ”.**

## ЛУКАШЕНКО ПРОДОЛЖАЕТ “СДАВАТЬ” РОССИИ НАШУ НЕЗАВИСИМОСТЬ

Когда 23 апреля министр обороны России Сергей Шойгу во время визита в Минск объявил о планах размещения на территории Беларуси российской военной авиационной базы, это вызвало взрыв возмущения в среде оппозиции и негативную реакцию в белорусском интернет-пространстве. И Лукашенко был вынужден открутить назад, немного успокоить публику. Через день он заявил, что, дескать, еще ничего не решено, возможно, Россия просто передаст Беларуси свои самолеты. Казалось, все становится на привычное место, как это давно принято в белорусско-российских отношениях.

Т. е. начинается долгий нудный изматывающий торг, который между Минском и Москвой происходит по любому вопросу. Например, соглашение о создании единой системы ПВО Беларуси и России подписано еще в 2009 году. Чтобы оно заработало, осталось решить один мелкий вопрос, сущий пустяк: назначить командующего этой структурой. Но стороны никак не могут договориться, в итоге единая ПВО существует без командующего.

Или мы видим, как упорно белорусский президент сопротивляется созданию совместных белорусско-российских предприятий, приватизационным поползновениям капитала РФ на нашей территории.

Зная, как трепетно относится А. Лукашенко к вопросу о своей суверенной власти над Беларусью, можно было предположить, что начнется жесткий торг. И если уж нельзя никак отвертеться от появления этой базы, то начнутся трудные переговоры и споры по поводу, условно говоря, «второй кнопки». Иначе говоря, белорусский президент будет претендовать на свое право “вето” на использование российских самолетов, расположенных на нашей территории.

*(Окончание на 3-ей стр.)*



## ЗЛОЎЖЫВАЛІ ЎЛАДАЙ



Былому старшыні Гомельскага гарвыканкама Віктару Піліпцу, таксама шэрагу службовых асоб упраўлення капітальнага будаўніцтва Гомельскага гарвыканкама, замяшаным у кватэрным скандале, прад’яўлены канчатковыя абвінавачанні. Справа перададзена пракурору для прыняцця рашэння аб накіраванні ў суд. Нагадаем, што арыштавалі В. Піліпца ў верасні мінулага года.

Як паведамілі ў аддзеле інфармацыі і сувязі з грамадскасцю Следчага камітэта, дзеянні абвінавачаных кваліфікаваны па ч.2 і ч.3 арт. 424: злоўжыванне ўладай і службовымі паўнамоцтвамі, максімальнае пакаранне па якіх — пазбаўленне волі да 10 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

Паводле інфармацыі Следчага камітэта, у ходзе следства ўстаноўлена, што абвінавачаныя, займаючы службовыя пасады, у верасні-кастрычніку 2011 года незаконна размеркавалі паміж сабой, сваімі сваякамі, блізкімі і знаёмымі кватэры ў шматкватэрных жылых дамах, частка жылых памяшканняў была афармлена на падстаўных асоб. Кошт набытых абвінавачанымі кватэр быў значна ніжэйшы, чым рынкавы.

*“У выніку злачынных дзеянняў вышэйзгаданых службовых асоб бюджэт недаатрымаў звыш 3,8 млрд рублёў, у ходзе следства кватэры вернуты дзяржаве”*, — заявілі ў Следчым камітэце. ***(“Народная Воля”)***

# НА ЯКОЙ ПАДСТАВЕ ЎЛАДЫ БЕЛАРУСІ НАДЗЯЛІЛІ АСУДЖАНАГА НА РАДЗІМЕ КУРМАНБЕКА БАКІЕВА БЕЛАРУСКІМ ГРАМАДЗЯНСТВАМ?

Курманбек Бакіеў — грамадзянін Беларусі і не можа быць выдадзены іншай краіне. Пра гэта заявіў Генеральны пракурор Беларусі Аляксандр Канюк, каментуючы паведамленні аб тым, што Беларусь вядзе перамовы аб выдачы былога кыргызскага кіраўніка, які ў сябе на радзіме прыгавораны да вялікага тэрміну зняволення.

Такім чынам, чуткі пра перамовы спадар Канюк назваў дэзінфармацыяй, а вось чуткі пра тое, што Бакіеў ужо мае беларускі пашпарт, — пацвердзіў. У сувязі з гэтым узніклі новыя пытанні: па якім законе Курманбек Бакіеў мог атрымаць беларускае грамадзянства і ці ведае беларускія законы Генеральны пракурор?

Справа ў тым, што Закон "Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь" дакладна вызначае, як можна атрымаць наш сіні пашпарт. Згодна з законам, маючы від на



жыхарства або атрымаўшы статус бежанца, у Беларусі трэба пражыць сем гадоў і толькі пасля гэтага можна прэтэндаваць на грамадзянства нашай краіны. Вядомыя падзеі ў Кыргызстане, пасля якіх былы прэзідэнт з сям'ёй вымушаны былі ўцякаць ад "шчаслівага народа", адбыліся ў 2010 годзе. Такім чынам, сем гадоў ну ніяк не атрымліваецца.

Праўда, тым жа законам "Аб грамадзянстве..." вызначана, што сямігадовы тэрмін пражывання можа быць скарочаны альбо не прымяняцца ўвогуле. І ясна пазначана — каму.

— Беларусам, а таксама асобам, якія ідэнтыфікуюць сябе як беларусы, і іх нашчадкам (сваякі па прамой лініі: дзеці, ўнукі, праўнукі), якія нарадзіліся за межамі сучаснай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

— Асобам, якія маюць выбітныя заслугі перад Рэспублікай Беларусь, высокія дасягненні ў галіне навукі, тэхнікі, культуры і спорту або валодаюць прафесіяй або кваліфікацыяй, якая мае дзяржаўную цікавасць для Рэспублікі Беларусь.

— Асобам, якія з'яўляюцца замежнымі грамадзянамі або асобамі без грамадзянства, якія раней знаходзіліся ў грамадзянстве Рэспублікі Беларусь.

Нейкіх асабістых заслуг перад нашай краін Бакіеў не мае, паколькі не мае беларускіх узнагарод. Пасада прэзідэнта ў нас не вакантная, таму іншаземцы з гэтай кваліфікацыяй Беларусі не патрабуюцца. Бакіеў не спартсмен і не вялікі навуковец. Дык, можа, ён этнічны беларус, што яму было дадзена беларускае грамадзянства?..

Хацелася б, каб Генеральны пракурор Аляксандр Канюк адказаў на пытанне: па якім законе Бакіеў атрымаў беларускі пашпарт? І ці не задача Генеральнага пракурора дабіцца выканання закона?

***Алена Новікава,***
***"Народная Воля"***

ЦИФРЫ НОМЕРА. ЦИФРЫ НОМЕРА. ЦИФРЫ НОМЕРА.

**Паводле звестак Інстытута эканомікі Акадэміі навук, у 2012 г. Расія падаравала Беларусі ў выглядзе ільготных цэн на нафту і газ каля *10 мільярдаў даляраў*.**

**ПРА ЯКУЮ НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ У ТАКОЙ СІТУАЦЫІ ЎВОГУЛЕ МОЖНА ВЕСЦІ ГАВОРКУ?**

# Лукашенко продолжает “сдавать” России...

Однако неожиданно события стали развиваться с головокружительной быстротой. Сергей Шойгу снова приехал в Минск и 5 июня сообщил журналистам, что уже в этом году в Беларуси будет создана авиационная комендатура, *«а в ближайшее время, мы надеемся, появятся и первые самолеты здесь, которые станут составной частью нашей совместной авиационной базы, так как все это делается по обоюдным договоренностям»*. На другой день в Беларусь прибыл главком ВВС России, дабы присмотреть место для размещения авиабазы. По словам С. Шойгу, этот вопрос должен решиться в течение 2 — 3 недель. Предполагается, что первое звено российских истребителей прибудет в нашу страну уже в этом году. А к 2015 году Россия собирается разместить здесь истребительный авиаполк в составе 20 самолетов Су-30СМ с крылатыми ракетами на борту. Эти самолеты одновременно могут выполнять роль и перехватчиков, и истребителей-бомбардировщиков.

Почему РФ в таком лихорадочном темпе стремится создать эту авиабазу? Эксперты считают, что это ответ на планы США разместить в Польше к концу 2013 года свои 24 истребителя F-16.

Форсированные темпы создания в Беларуси российской авиабазы порождают ряд вопросов, на которые пока никто не дает ответов. С одной стороны, как-то поразительно легко и быстро А. Лукашенко принял решение, которое очень значительно меняет геополитический статус Беларуси. Возможно, он действительно получил согласие Москвы на то, чтобы у Минска была «вторая кнопка». Вроде бы в пользу этой версии говорит загадочная реплика С. Шойгу о «нашей совместной авиационной базе». С другой стороны, как-то трудно поверить, что Россия согласится размещать здесь свою военную авиацию, которую можно использовать, только рассчитывая на добрую волю и изменчивые настроения А. Лукашенко.

Безусловно, за огромную российскую экономическую помощь нужно чем-то платить. И А. Лукашенко всегда стремился поддерживать хорошие отношения с военными РФ, ибо считает их своими самыми надежными союзниками. К тому же ситуация в белорусской экономике достаточно сложная, а руку помощи может протянуть только Россия.

В любом случае появление в Беларуси российской авиабазы означает качественную перемену геополитического статуса Беларуси. На белорусской территории уже много лет находятся два военных объекта РФ: радиолокационная станция «Волга», призванная предупреждать о ракетном нападении (близ г. Ганцевичи), и зональный пункт связи ВМФ (около г. Вилейка). Но российского оружия или его носителей до сих пор в Беларуси не было. Теперь оно появится. И это значит, что военные самолеты другой страны будут иметь возможность с белорусской территории осуществлять боевые действия, и в случае какого-нибудь международного кризиса Россия может втянуть Беларусь в войну вопреки желанию и национальным интересам нашей страны. Мы станем заложниками великодержавных амбиций РФ и, одновременно, мишенью для ответного удара.

Другими словами, военный суверенитет Беларуси станет ограниченным. Белорусское государство теряет полный контроль над своей территорией в наиболее чувствительной сфере — в сфере обороны. И для А. Лукашенко это решение станет очень важным политическим и психологическим Рубиконом.

Ведь до сих пор он позиционировал себя как создателя белорусского суверенного государства. Недавно он заявил, что строительство Дворца Независимости будет последней точкой в утверждении нашего суверенитета. И в общественном мнении, даже среди политических противников А. Лукашенко утвердилось мнение, что он не сдаст России суверенитет Беларуси хотя бы в силу нежелания идти на малейшее ущемление своей власти. И до сих пор были большие основания так думать. Ибо пока по большому счету президент почти ничего не сдал. Единственное, что можно ему предъявить, это продажа «Газпрому» «Белтрансгаза» и переход в руки России газотранспортной системы страны.

А. Лукашенко очень боялся, что Беларусь под его руководством будут считать сателлитом России. Отчасти этим объясняется его упорное уклонение от признания независимости Южной Осетии и Абхазии.

И вот теперь, давая согласие на создание в Беларуси российской авиабазы, А. Лукашенко перешагивает важный рубеж. Образ защитника суверенитета, жестко отвергающего претензии и с Запада, и с Востока, уходит в прошлое. Что свидетельствует о серьезном политическом ослаблении белорусского лидера. Его возможности сопротивляться связывает неэффективная, нереформированная экономика. Обратите внимание, что вся информация о появлении в Беларуси российской авиабазы исходит из уст министра обороны РФ. Белорусские официальные лица молчат, как воды в рот набравши. Как будто не происходит серьезного изменения суверенного статуса государства...

Теперь в мире образ Беларуси как российского сателлита только укрепится. В западных столицах будут реанимированы настроения, что решение «белорусского вопроса» нужно искать в Москве. И вообще в отношениях между Беларусью и Западом появляется новая линия разлома. Геополитика существенно потеснит вопрос о демократии и правах человека.

***Валерий Карбалевич, “СНплюс”***



# ДАРАГАЯ ХАРЧОВАЯ БЯСПЕКА

Аляксандр Лукашэнка з чарговы раз адрапартаваў пра вялізарныя поспехі беларускай сельскай гаспадаркі. На сустрэчы з выкладчыкамі і студэнтамі Беларускага аграрна-тэхнічнага ўніверсітэта ён ажзначыў, што ў цяперашні час Беларусь цалкам задавальняе свае патрэбы ў харчаванні і каля паловы пастаўляе на экспарт. Па выніках 2012 года аб’ём экспарту прадуктаў склаў больш за 5 мільярдаў долараў, а да канца 2015 года павінен быць 7 мільярдаў.

*«Можна ганарыцца тым, што ў разліку на душу насельніцтва асноўных відаў сельскагаспадарчай прадукцыі Беларусь займае першае месца сярод краін СНД. Па вытворчасці мяса мы зраўняліся з Германіяй, а па малаку прыкладна ўдвая перавышаем асноўныя развітыя ў аграрным дачыненні еўрапейскія краіны»*, — заўважыў Лукашэнка.

Здавалася б, можна ганарыцца такімі дасягненнямі. І мы, безумоўна, імі ганарыліся б, калі б словы Лукашэнкі былі «рэальнасцю, дадзенай нам у адчуваннях». Але карысці ад такіх сельскагаспадарчых дасягненняў — нуль.

Навошта нам «разлік на душу насельніцтва», калі нашы грамадзяне ў чэргах стаяць па літоўскія і польскія візы, каб у суседзяў закупіць тое ж мяса, якое ў іх у два-тры разы танней? Чаму пры рэкордным мінулагоднім ураджаі яблыкаў зараз у крамах — польскія і галандскія яблыкі (прычым у 2–3 разы даражэй, чым на іх радзіме), але не беларускія? Дзе на прылаўках беларуская бульба, і што там робяць іспанскія і турэцкія памідоры — у нас жа харчовая бяспека?

Ну і што з таго, што па ўзроўні вытворчасці мяса мы зраўняліся з Германіяй? Германія магла б у дзесяць разоў больш мяса вырабляць. Але там не гоняцца за аб’ёмамі, там глядзяць на тое, ці здолеюць яны гэтае мяса прадаць. Мы ўдвая перавышаем краіны Еўропы па малаку толькі таму, што ў Еўропе яшчэ не забыліся на «фермерскія бунты», калі малака там было столькі, што фермеры не маглі яго прадаць, і ліліся малочныя рэкі на плошчы еўрапейскіх сталіцаў і ў каналізацыю.



Літр малака ў Германіі каштуе каля 50 еўрацэнтаў — 5 тысяч рублёў на нашы грошы. Менш, чым у Беларусі!. Кілаграм свініны ў Францыі на нашы грошы — 29 тысяч. Чаму наша «харчовая бяспека» не дае такіх цэнаў? На гэта, на жаль, адказу ад кіраўніка Беларусі чуваць не было...

*Сяргей Пульша, “Новы Час”*

**Паважаныя чытачы, электронную версію “Калінкі” вы можаце знайсці на інтэрнэт-старонцы gomelcivil.org Ласкава запрашаем!**

## ШАНОЎНЫЯ СЯБРЫ!

**Мы з задавальненнем друкуем лісты і допісы нашых чытачоў, у якіх узнімаюцца актуальныя і злабадзённыя праблемы з жыцця нашага горада і раёна. Вось наш e-mail:** newkalinka2012@gmail.com

**Кожны чалавек мае права на свабоду перакананняў і на свабоднае выражэнне іх; гэта права ўключае свабоду бесперашкодна прытрымлівацца сваіх перакананняў і свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі любымі сродкамі і незалежна ад дзяржаўных граніц.** *(Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека. Арт. 19).*

“Калінка”. Незалежнае інфармацыйнае выданне.

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад - 299 асобнікаў. Выходзіць 1 раз на месяц.



**Будзьце свабоднымі і жывіце без страху.**